Vol. VI
of X

$2.00 US
$2.95 CAN

# V FOR VENDETTA™

By **Alan Moore**
and **David Lloyd**




Suggested
For Mature
Readers

BY COMICS

V ЗНАЧЫЦЬ ВЕНДЭТА #6 1988
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ
АЛЕНЫ ВАСІЛЬКОВАЙ

# V FOR VENDETTA™

By **Alan Moore** and **David Lloyd**

**Пераклад на беларускую**
**Алены Васільковай**

BY COMICS

Color artists:
**Steve Whitaker**
**Siobhan Dodds**
**David Lloyd**

Lettering:
**Jenny O'Connor**
**Elitta Fell**

**V FOR VENDETTA 6**
Published monthly by DC Comics Inc.,
666 Fifth Avenue, New York, N.Y. 10103.

Printed in Canada.

V FOR VENDETTA, Book 2.
Chapters 8, 9, 10 & 11 first published 1983
in the United Kingdom by
Quality Communications Limited.
DC Comics Inc.
A Warner Communications Company.





# ГЛАВА 8

## АДПЛАТА




























НУ ШТА, БО, ДАСТАЎ ІХ, А?
АГА, ЕЛДАСМОК ТЫЙ ЯШЧЭ...

ПІНТУ МОЦНАГА І НІЯКІХ ЛІМОНАДАЎ, ТАК?
ОЙ, АДЧАПІСЯ, А?

А ШТО ТАКОЕ, БО, МЫ Ж СВЯТКУІМ.
ІЛІ ШТА, НЯМА НАСТРОЮ,ТАК?

НЕ, АСАБІЗТА Я НІ МАГУ, У МЯНЕ НЕ СТАІЦЬ.

НУ ШТА, ЦІЦЬКАСТАЯ КЭРАЛ ЦІ ШТА?
НЕ, ДЖЭЙМСАВА ПТУШАЧКА - ДАЯН, ЦІ ШТА?


КЭРАЛ... ЯНА ПРАЦУЕ НА ГЭТАГА... З ВОКА... ЦІ ШТА?









НАВОКАЛ МЯНЕ ЦЕМРА. МАЖЛІВА Я ЗА КУЛІСАМІ Ў ТЭАТРЫ ПАДЧАС АНТРАКТУ?

ПАБЛІЗУ ЧУТНЫЯ НЕЙКІЯ ПРЫГЛУШАНЫЯ ГУКІ. НАПЭЎНА, ГЭТА ПРАЦАЎНІКІ РЫХТУЮЦЬ ДЭКАРАЦЫІ НА СЦЭНЕ.

Я АДЧУВАЮ ВОДАР РУЖ І УСПАМІНАЮ ПАШТОЎКІ З ВОДАРАМ ПАРФУМУ, ЯКІЯ ЗНАЙШЛА МАЯ МАЦІ Ў СКРЫНІ З-ПАД АБУТКУ Ў НАШЫМ ДОМЕ НА ШУТЭРС-ХІЛ.

АПАДАЮЦЬ ПЯЛЁСТКІ, КРЭМАВАЯ АЛОЎКАВАЯ СТРУЖКА.

УСЁ ЗМЯНЯЕЦЦА...

# ГЛАВА 9

## VЕСЯЛОСЦЬ

У МЯНЕ ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ. Я ЎСЁ ЯШЧЭ Ў ТЭАТРЫ, АЛЕ ВЕДАЮ, ШТО ГЭТА НАСАМРЭЧ НАШ СТАРЫ ДОМ.

Я ЧУЮ, ЯК ГУДУЦЬ ГОСЦІ НАВЕРСЕ.

"WAIKI

They're wicki-wack ooing in Hawaii!

HEAT

VALERIE PAGE

HE ROSE FOREST

Я ВЕДАЮ, ШТО СВЯТА Ў ГОНАР МАЙГО ДНЯ НАРАДЖЭННЯ, АЛЕ ЧАМУСЬЦІ ЎПЭЎНЕНА, ШТО СВЯТА СКОНЧЫЦЦА, ПАКУЛЬ Я ДАЙДУ.

THE BLACK SHADOWS OF THE PAST BRED THIS HALF-MAN HALF-DEMON!

ROAD TO

WEDDING

ME BAC

THE DEAD FOR

МНЕ ТРЭБА ШМАТ ЧАСУ, КАБ ПАДРЫХТАВАЦЦА.

ROGS...HAIL...L

НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ЧАМУ Я ТАК АПРАНАЮСЯ, АЛЕ АДЧУВАЮ, ШТО АД МЯНЕ ЧАКАЮЦЬ ГЭТАГА.

CROSBY

SON

І ВЕЛЬМІ ШКАДА. Я ЖАДАЮ ПАЙСЦІ НА СВЯТА ЗАРАЗ.

ІВІ?

ТЫ МОЖАШ ПРАПУСЦІЦЬ СВЯТА. А МЫ СПЕЦЫЯЛЬНА ЗАПРАСІЛІ ПАНЧА І ДЖУДЗІ.

МНЕ ПАДАБАЕЦЦА, ШТО БАЦЬКА ПРЫЙШОЎ. ДАЎНО НЕ БАЧЫЛА ЯГО. З ТЫХ ЧАСІН, КАЛІ ПАЧАЛА ПРАЦАВАЦЬ НА ЗАПАЛКАВАЙ ФАБРЫЦЫ.

ЁН ВЯДЗЕ МЯНЕ НА СВЯТА. ЦІКАВА, ГЭТА НАШ ДОМ ЦІ НЕ?


СХОДЫ НАГАДВАЮЦЬ МНЕ ПРА НЕЙКАЕ ДРУГОЕ МЕСЦА. І ГЭТА СУМНА, НЕ ВЕДАЮ ЧАМУ.


ПАЗНЕЙ Я НАРЭШЦЕ ПРЫЙДУ НА СВЯТА... АЛЕ БАЦЬКА ВЯДЗЕ МЯНЕ Ў СПАЛЬНЮ.
ЁН ЖАДАЕ ПАКАЗАЦЬ НЕБА З СПАЛЬНІ. ЯНО ЧОРНАЕ І ЖОЎТАЕ.


ЁН КАЖА, ШТО МОЙ ПАКОЙ ПАТРЭБНЫ ЯМУ, БО ЯМУ ПАТРЭБНА ШТОСЬЦІ СХАВАЦЬ. АЛЕ Я МАГУ СПАЦЬ У ЯГО ПАКОІ.
ГЭТЫ ПАКОЙ МНЕ ТАКСАМА ПАДАЕЦЦА ЗНАЁМЫМ. НЕ ВЕДАЮ ЧАМУ.


ЁН ПАЧЫНАЕ ЦАЛАВАЦЬ МЯНЕ, І МЫ КЛАДЗЕМСЯ Ў ЛОЖАК.
МАЖЛІВА ЁН ЗАХВАРЭЎ? ЁН ВЫГЛЯДАЕ ТАКІМ СТАРЫМ...


ПОТЫМ ДЗВЕРІ АДЧЫНЯЮЦЦА І ЎВАХОДЗІЦЬ МАЦІ. Я РАЗУМЕЮ, ШТО ЛЯЖУ Ў ЛОЖКУ З БАЦЬКАМ І СПРАБУЮ АПРАЎДВАЦЦА.


АЛЕ ЯНА НЕ ЗЛУЕЦЦА І КАЖА, ШТО АРТЫСТ З ПАНЧАМ І ДЖУДЗІ ВОСЬ-ВОСЬ ПАЧНЕ.


Я РАЗУМЕЮ, ШТО МАЦІ ТРЭБА ПАБЫЦЬ З БАЦЬКАМ САМ-НАСАМ. Я ВЫЙШЛА.
КАЛІДОР ВЫГЛЯДАЕ НЕЯК ПА-ІНШАМУ. ЗАРАЗ Я УПЭЎНЕНА: ГЭТА НЕ НАШ ДОМ.


АЛЕ ДЗЕ Я?

РАПТАМ Я РАЗУМЕЮ, ШТО ГЭТА ПРЫТУЛАК ДЛЯ САСТАРЭЛЫХ У КЕНСІНГТОНЕ.

АРТЫСТ З ПАНЧАМ І ДЖУДЗІ РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫСТУПУ. ЧАМУ Я ВЫРАШЫЛА, ШТО ГЭТА МОЙ ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ?

Я ПРАБІВАЮСЯ СКРОЗЬ НАТОЎП ДА СЦЭНЫ. ДАБРААХВОТНІКІ ІДУЦЬ НАПЕРАД.

ЯНЫ ЎСЕ СТАЯЦЬ У ШЭРАГ ПЕРАД МІСТЭРАМ ПАНЧАМ. НЕКАТОРЫХ З ІХ Я ВЕДАЮ.

ШТО ЁН ЗБІРАЕЦЦА РАБІЦЬ?





ВОСЬ ЯК ГЭТА РОБІЦЦА!

О БОЖА, БОЖА, БОЖА!

ЧАМУ ЯГО НІХТО НЕ СПЫНЯЕ? УСЕ ТОЛЬКІ СМЯЮЦЦА!

Я БЯГУ ШУКАЦЬ МАМУ І БАЦЬКУ. ВЕДАЮ, ШТО ЁН БЯЖЫЦЬ ЗА МНОЙ.


ЗАРАЗ Я ВЕЛЬМІ НАПАЛОХАНА. Я НЕ ПАЗНАЮ КАЛІДОРЫ І МІСТЭР ПАНЧ ВОСЬ-ВОСЬ ДАГОНІЦЬ МЯНЕ.


Я ЧУЮ ЯК ГРУКОЧА МАЁ СЭРЦА. БОЛЕЙ НІ ГУКА ВА ЎСІМ ТЭАТРЫ.


ВСЕ АСТАТНІЯ НАПЭЎНА ПАМЁРЛІ: МАМА, БАЦЬКА, ГОРДАН.




ЯНЫ КІНУЛІ МЯНЕ З ІМ.


Я ПАВАРОЧВАЮ І БЯГУ ТУДЫ, АДКУЛЬ ПРЫЙШЛА, АЛЕ КАЛІДОР ЗНІКАЕ...


ЗАМЕСТ ЯГО СПІРАЛЛЮ СЫХОДЗЯЦЬ УНІЗ БЯСКОНЦЫЯ СХОДЫ.
НОГІ СТАНОВЯЦЦА ЦЯЖКІМІ. ЯНЫ ЛЕДЗЬ РУХАЮЦЦА. ЗАРАЗ ЁН МЯНЕ ДАГОНІЦЬ.


Я ЗАБІРАЮСЯ НА ВЕРХ І ГЛЯДЖУ ЎНІЗ.
ЁН ІДЗЕ ЗА МНОЙ, УСЁ ВЫШЭЙ І ВЫШЭЙ...

Я УСПАМІНАЮ, ШТО НАВЕРСЕ ЁСЦЬ ЛІФТ, ЯКІ ВЯДЗЕ ДА СКЛЕПУ.

Я НЕ ДАБЯРУСЯ ТУДЫ СВОЕЧАСОВА.

ЁН АМАЛЬ ДАГНАЎ МЯНЕ!

КАЛІ ЛАСКА, НЯХАЙ ДЗВЕРЫ НЕ ЗАЧЫНЯЦЦА Ў МАЙГО НОСА.

Я АМАЛЬ УЖО ТАМ.

О, ДЗЯКУЙ БОГУ!

УНІЗ, УНІЗ, НА ПЕРШЫ ПАВЕРХ...
ЯМУ ТРЭБА БУДЗЕ ІСЦІ ПА СХОДАХ І ...

ТУТ ЖЫВЕ ПАЦУК.

Я СЯДЖУ НА ЦВЁРДАЙ ДРАЎЛЯНАЙ КОЙЦЫ, ПАДЦЯГНУЎШЫ КАЛЕНЫ ДА ПАДБАРОДКА.

ТУТ ПАЦУК.

Я СПРАБУЮ НІ ПРА ШТО НЕ ДУМАЦЬ АКРАМЯ ТАГО, ШТО ТУТ ПАЦУК І ЯНЫ НАПЭЎНА ЗАБ'ЮЦЬ МЯНЕ.

ТУТ ЧАТЫРЫ СЦЯНЫ, ДВА ВОКНЫ З ШАСЦЮ ДУБЦАМІ, УНІТАЗ БЕЗ СТУЛЬЧАКА, ДРАЎЛЯНАЯ ПЕРАГАРОДКА, КОЙКА, А НА ЁЙ ІМЯ- ЭМА.

І Я.

А ЯШЧЭ ПАЦУК.

# ГЛАВА 11

## ПАД ЗАМКОМ

ПАЗНЕЙ ПАЦУК УЦЁК.

Я ЧУЮ, ЯК У КАЛІДОРЫ ТРОХІ РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ДВА МУЖЧЫНЫ. ПАЗНЕЙ ПРАЗ АКЕНЦА Ў ДЗВЕРАХ ПРАСОЎВАЮЦЬ ТАЛЕРКУ.

Я НЕ МАГУ ГЭТА ЕСЦІ.

КАЛІ Я НЕ БУДУ ГЭТА ЕСЦІ, ПАЦУК ВЕРНЕЦЦА.

АЛЕ ЕСЦІ ГЭТА Я ЎСЁ РОЎНА НЕ МАГУ.

НА СТАЛІ ЁСЦЬ ПАТРОН, АЛЕ ЛЯМПАЧКІ ТАМ НЯМА.

КАЛІ ЗНАДВОРКУ ЦЯМНЕЕ, ЦЯМНЕЕ І Ў КАМЕРЫ. Я СПРАБУЮ СПАЦЬ.

ТУТ ПАЦУК.

ПОТЫМ МЯНЕ БУДЗЯЦЬ ГАЛАСЫ.
ЯНА СПІЦЬ.
КАРОВА ЛЯНІВАЯ.
НУ, ВОЧКІ АДЧЫНЯЙ...
ДАВАЙ, ХАЛЕРА, ВАРУШЫСЯ!
ЗРАБІЦЕ, УСЁ ШТО ТРЭБА РОСІТЭР.
СЭР?
ШТО?
БОЖА ЛІТАСЦІВЫ!
І ГЭТА КУРВА – ЗНАКАМІТАЯ МІС ХАМАНД...
НЕ! ДЗЕ Я? ШТО ВАМ ТРЭБА? Я НЕ ЖАДАЮ...
ЗЯПУ ПРЫКРЫЙ.
СПЫНІЦЕСЯ! ШТО ВЫ РОБІЦЕ?
КАЛІ ЛАСКА! Я НІЧОГА НЕ РАБІЛА! ЗА ШТО? Я...
Я КАЖУ, ЗЯПУ ПРЫКРЫЙ.
ІДУ. Я НІЧОГА НЕ БАЧУ. МЯНЕ ПХАЮЦЬ У СПІНУ. МОЦНА...
НАРЭШЦЕ СПЫНЯЕМСЯ.
ДОБРА, ЗДЫМАЙЦЕ.


ЯРКАЕ БЕЛАЕ СВЯТЛО. ЁН МЯНЕ СЛЕПІЦЬ. ПЕРАД МНОЙ СЯДЗІЦЬ ЧАЛАВЕК.
У МЯНЕ ДРЫЖАЦЬ РУКІ І Я ХАЧУ Ў ТУАЛЕТ.


ЁН ПЫТАЕЦЦА, ЦІ ВЕДАЮ Я, ЧАМУ Я ТУТ.
Я АДКАЗВАЮ "НЕ"
ЁН ЗАВЕ МЯНЕ ХЛУСЛІВАЙ КУРВАЙ, Я АДЧУВАЮ СЯБЕ ТАК, БЫЦЦАМ МЯНЕ СТУКНУЛІ Ў ЖЫВОТ.


ПОТЫМ ЯНЫ ПАКАЗВАЮЦЬ МНЕ ВІДЭА.


ТАМ ДЗЯЎЧЫНА РАЗМАЎЛЯЕ З МУЖЧЫНАЙ. ЯНА КАЛЫША СЦЁГНАМІ, АЛЕ ГЭТА ВЫГЛЯДАЕ НЯЗГРАБНА. ПРАСТЫТУТКА, НАПЭЎНА...
ЧАМУ ЯНЫ МНЕ ПАКАЗВАЮЦЬ ГЭТА? НЯЎЖО ГЭТА...


ОХ...


ОХ, ГЭТА Я.


У МІНУЛЫМ ЛІСТАПАДЗЕ... ВЭСТМІНСТЭРСКІ МОСТ І...
ЯНЫ ЖАДАЛІ ЗГВАЛТАВАЦЬ МЯНЕ, ЖАДАЛІ ЗАБІЦЬ МЯНЕ. А ПОТЫМ...



















...А ПОТЫМ ЧАЛАВЕК ЗЗАДУ ІЗНОЎ АПРАНАЕ МНЕ НА ВОЧЫ ПАВЯЗКУ.

Я СЛЕПНУ, СПАТЫКАЮСЯ. ХТОСЬЦІ ТРЫМАЕ МЯНЕ ЗА ЗАПЯСЦІ ТАК МОЦНА, ШТО СТАНОВІЦЦА БАЛЮЧА...

МЫ КУДЫСЬЦІ ІДЗЁМ, ЯНЫ ПХАЮЦЬ МЯНЕ. Я КРЫЧУ, ДУМАЮ, ШТО ПАВАЛЮСЯ...

АЛЕ Я АПЫНЯЮСЯ НА СТУЛЕ.





















ТОЛЬКІ ЗАРАЗ
МНЕ ЎСЁ РОЎНА.

ТАМУ ШТО
Я НЕ ЛЕПЕЙ
ПАЦУКА.

ЦЁМНА.
Я ШМАТ ПЛАЧУ.

ПАЗНЕЙ, КАЛІ Я
ПРАСНУЛАСЯ... БОЖУХНА,
ЯНЫ АГАЛІЛІ МЯНЕ.

Я ЎСТАЮ. УЖО АМАЛЬ
РАЗВІДНЕЛА.
Я БАЧУ ДЗІРКУ Ў СЦЯНЕ.

З ЯЕ ШТОСЬЦІ
ТЫРЧЫЦЬ.

НЕ ПАЦУК.

ТУАЛЕТНАЯ ПАПЕРА?

АЛЕ АДКУЛЬ?

ПЯЦЬ АБРЫЎКАЎ,
АБПІСАНЫХ АЛОЎКАМ.

Я НЕ ВЕДАЮ, ХТО ВЫ.
КАЛІ ЛАСКА, ВЕРЦЕ МНЕ.
Я НЕ МАГУ ДАКАЗАЦЬ, ШТО Я НЕ З
ГЭТЫХ, ДЫ ХАЛЕРА З ІМ. Я ГЭТА Я.
Я НЕ ВЕДАЮ, ХТО ВЫ, АЛЕ Я
КАХАЮ ВАС. У МЯНЕ ЁСЦЬ
АЛОВАК. МАЛЕНЬКІ, ЯНЫ ЯГО НЕ
ЗНАЙШЛІ. Я ЖАНЧЫНА. Я СХАВАЛА
ЯГО ЎНУТРЫ. МАЖЛІВА, Я НЕ
ЗМАГУ БОЛЕЙ ПІСАЦЬ,
ТАМУ ГЭТЫ ЛІСТ БУДЗЕ ДОЎГІМ.
МАЯ АДЗІНАЯ АЎТАБІАГРАФІЯ
БОЖУХНА
НА ТУАЛЕТНАЙ ПАПЕРЫ...

Я ГЛЯДЖУ У КАНЕЦ
АПОШНЯЙ СТАРОНКІ.

ЯЕ КЛІЧУЦЬ
ВАЛЕРЫ...




Я ВЕДАЮ ГЭТУЮ КАМЕРУ НА ПАМЯЦЬ. ВЕДАЮ КОЖНУЮ РАСКОЛІНУ Ў ТЫНКОЎЦЫ ТАКСАМА ДОБРА ЯК СВАЁ ЦЕЛА.

Я НЕ ВЕДАЮ, ДЗЕ Я.

Я ВЕДАЮ, ШТО Ў КАМЕРЫ ЦЯМНЕЕ І СВІТАЕ. Я ЗАСЫНАЮ І ПРАЧЫНАЮСЯ. ЧАС ВЫЗНАЧАЕЦЦА ХУТКАСЦЮ РОСТА ВАЛАСОЎ У ПАДПАХАХ – ЯНЫ ТАМ МЯНЕ НЕ ГАЛІЛІ.

Я НЕ ВЕДАЮ, ЯКІ ЗАРАЗ ДЗЕНЬ.

Я ВЕДАЮ, ШТО ІСНУЕ ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ НАПІСАЛА ГЭТЫ ЛІСТ НА ТУАЛЕТНАЙ ПАПЕРЫ. Я ВЕДАЮ, ШТО ЯНА Ў САМОЦЕ. Я ВЕДАЮ, ШТО ЯНА КАХАЕ МЯНЕ.

Я НЕ ВЕДАЮ, ЯК ЯНА ВЫГЛЯДАЕ.

Я ЧЫТАЮ ЯЕ ЛІСТ, ХАВАЮ ЯГО, СПЛЮ, ПРАЧЫНАЮСЯ, ЯНЫ ДАПЫТВАЮЦЬ МЯНЕ, Я ПЛАЧУ. ЦЯМНЕЕ, СВІТАЕ, Я ІЗНОЎ ЧЫТАЮ ЯЕ ЛІСТ...

ЗНОЎ І ЗНОЎ...
ЯЕ ЗАВУЦЬ ВАЛЕРЫ...
ГЛАВА 11
VАЛЕРЫ

Я НЕ ВЕДАЮ, ХТО ВЫ. КАЛІ ЛАСКА, ВЕРЦЕ МНЕ. Я НЕ МАГУ ДАКАЗАЦЬ, ШТО Я НЕ З ГЭТЫХ, ДЫ ХАЛЕРА З ІМ. Я ГЭТА Я. Я НЕ ВЕДАЮ, ХТО ВЫ, АЛЕ Я КАХАЮ ВАС. У МЯНЕ ЁСЦЬ АЛОВАК. МАЛЕНЬКІ, ЯНЫ ЯГО НЕ ЗНАЙШЛІ. Я ЖАНЧЫНА. Я СХАВАЛА ЯГО ЎНУТРЫ. МАЖЛІВА, Я НЕ ЗМАГУ БОЛЕЙ ПІСАЦЬ, ТАМУ ГЭТЫ ЛІСТ БУДЗЕ ДОЎГІМ.
МАЯ АДЗІНАЯ АЎТАБІАГРАФІЯ БОЖУХНА НА ТУАЛЕТНАЙ ПАПЕРЫ...



















ДОБРА.

ДАВАЙЦЕ ЗРОБІМ ПАДСУМА-ВАННЕ, МІС ХАМАНД.

ВЫ ПРАЦУЕЦЕ НА ГЭТАК ЗВАНАГА V. ГЭТАК ЗВАНЫ V ЗАБІВАЕ АФІЦЭРАЎ СЛУЖБЫ БЯСПЕКІ. ПІТЭР КРЫДЗІ – АФІЦЭР, ЁН ЧАСТА БЫВАЕ Ў "КІЦІ-КЭТ".
ЗНАЧЫЦЬ, ВЫ ПА ЗАГАДЗЕ ПЛАНАВАЛІ ЗАБІЦЬ КРЫДЗІ.

ВАС СХАПІЛІ КАЛЯ ГЭТАЙ УСТАНОВЫ З ЗАРАДЖАНЫМ ПІСТАЛЕТАМ.
БО ТАК І БЫЛО, МІС ХАМАНД?

НЕ! НЕ! КАЛІ ЛАСКА, ГЭТА НЯПРАЎДА!
БОЖУХНА, РОСІТЭР.
СЭР.
НЕ! ПАЧАКАЙЦЕ! НЕ ТРЭБА!


ЛОНДАН.
Я БЫЛА ШЧАСЛІВАЯ Ў ЛОНДАНЕ.

ЭГАІСТЫЧНА, ТАК?
ГЛУПСТВА, АЛЕ ГЭТА АДЗІНАЕ, ШТО У НАС ЗАСТАЛОСЯ. АЛЕ КАЛІ НАВАТ ГЭТА АПОШНЯЯ КЛЕТКА НАШАГА ЦЕЛА, ЯКАЯ ЗАСТАЛАСЯ НАШАЙ, У ЁЙ МЫ ВОЛЬНЫЯ.
ЛОНДАН. Я БЫЛА ШЧАСЛІВАЯ Ў ЛОНДАНЕ. У 1981-М Я ЗГУЛЯЛА ДАНДЗІНІ Ў "ПАПЯЛУШЦЫ". МОЙ ПЕРШЫ СПЭКТАКЛЬ З РЭПЕРТУАРУ.
ДЗІЎНЫ МІР МІТУСНІ І ШОРГАТАЎ, НЯБАЧНЫХ ЗА ЯРКІМІ АГНЯМІ ГЛЯДАЧОЎ, АМАЛЬ НЕВЫНОСНАГА ЗЗЯННЯ. Я БЫЛА ЗАХОПЛЕНАЙ І САМОТНАЙ.
НОЧЧУ Я ХАДЗІЛА ПА КЛУБАМ, АЛЕ Я ПАВОДЗІЛА САБЕ СТРЫМАНА І НЕ ВЕЛЬМІ ШМАТ РАЗМАЎЛЯЛА.
Я БАЧЫЛА ГЕЯЎ, АЛЕ НЕ АДЧУВАЛА СЯБЕ ПАВОЛЬНА КАЛЯ ІХ - ЯНЫ ПРОСТА ЖАДАЛІ БЫЦЬ ТАКІМІ. ГЭТА БЫЛО ІХ ЖЫЦЦЁ. ІХ ЗАПАЛ.
АДЗІНАЯ ТЭМА ДЛЯ РАЗМОЎ...



















У 1992-М, ПАСЛЯ ПРЫХОДУ ДА ЎЛАДЫ, ЯНЫ ПАЧАЛІ ПЕРАСЛЕДВАЦЬ ГЕЯЎ. РУТ СХАПІЛІ, КАЛІ ЯНА ПАЙШЛА ПАШУКАЦЬ ЕЖЫ.
ЧАМУ ЯНЫ ТАК НАС БАЯЛІСЯ?
ЯНЫ ТУШЫЛІ ЦЫГАРЭТЫ НА ЯЕ ЦЕЛЕ І ПРЫМУШАЛІ НАЗВАЦЬ МАЁ ІМЯ. ЯНА ПАДПІСАЛА ЗАЯВУ, ШТО Я ЯЕ СПАКУСІЛА.


Я ЯЕ НЕ ВІНАВАЦІЛА.
БОЖА, Я КАХАЛА ЯЕ. Я НЕ ВІНАВАЦІЛА ЯЕ.


ЯНА ВІНАВАЦІЛА СЯБЕ.
ЯНА СКОНЧЫЛА ЖЫЦЦЁ САМАГУБСТВАМ. НЕ МАГЛА ЖЫЦЬ ЗДРАДНІЦАЙ. ЖЫЦЬ, АДДАЎШЫ СВАЮ АПОШНЯЮ КЛЕТКУ.
АХ, РУТ!


ЯНЫ ПРЫЙШЛІ ЗА МНОЙ. КАЗАЛІ, ШТО СПАЛЯЦЬ УСЕ МАЕ ФІЛЬМЫ.
ЯНЫ ПАГАЛІЛІ МЯНЕ. АКУНАЛІ ГАЛАВОЙ ВА ЎНІТАЗ І ЖАРТАВАЛІ НАКОНТ ЛЕСБІЯНАК.


ЯНЫ КІНУЛІ МЯНЕ СЮДЫ І ПАЧАЛІ КАРМІЦЬ МЯНЕ ТАБЛЕТКАМІ. Я ЎЖО НЕ АДЧУВАЮ СВОЙ ЯЗЫК. Я НЕ МАГУ РАЗМАЎЛЯЦЬ.


ЯШЧЭ АДНА ЛЕСБІЯНКА, РЫТА, ПАМЁРЛА ДВА ТЫДНІ ТАМУ. Я ТАКСАМА ХУТКА ПАМРУ.
ДЗІЎНА, ШТО МАЁ ЖЫЦЦЁ ПАВІННА СКОНЧЫЦЦА Ў ТАКІМ МЕСЦЫ. АЛЕ Ў МЯНЕ ТРЫ ГАДЫ БЫЛІ РУЖЫ І Я НІ ПЕРАД КІМ НЕ АПРАЎДВАЛАСЯ.
Я ПАМРУ ТУТ. Я ПАМРУ ЎСЯ. АКРАМЯ АПОШНЯЙ КЛЕТКІ.


АКРАМЯ АДНОЙ.

КЛЕТКА.

ТАКАЯ МАЛЕНЬКАЯ. АЛЕ ГЭТА АДЗІНАЕ, ШТО ТРЭБА МЕЦЬ.

МЫ НЕ ПАВІННЫ ГУБЛЯЦЬ ЯЕ, ПРАДАВАЦЬ АЛЬБО АДДАВАЦЬ.

МЫ НЕ МОЖАМ ІМ ДАЗВОЛІЦЬ ЗАБРАЦЬ ЯЕ.

Я НЕ ВЕДАЮ, ХТО ВЫ, Я НЕ ВЕДАЮ НАВАТ ЦІ ЖАНЧЫНА ВЫ АЛЬБО МУЖЧЫНА. Я НАЎРАД ЦІ ЎБАЧУ ВАС. НЕ ЗМАГУ АБНЯЦЬ ВАС, ПАЦАЛАВАЦЬ ВАС, РАЗАМ ПАПЛАКАЦЬ АЛЬБО ВЫПІЦЬ.

АЛЕ Я КАХАЮ ВАС.

Я СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ВЫ ЗБЯЖЫЦЕ АДСЮЛЬ.

СПАДЗЯЮСЯ, ШТО СВЕТ БУДЗЕ ТАКІМ, ЯКІМ ЁН БЫЎ РАНЕЙ. І Ў ЛЮДЗЕЙ БУДУЦЬ РУЖЫ. ЯК І РАНЕЙ.

ШКАДА, ШТО Я НЕ МАГУ ПАЦАЛАВАЦЬ ВАС.

ВАЛЕРЫ.

"Х"

Я ВЕДАЮ ГЭТУЮ КАМЕРУ НА ПАМЯЦЬ.

ГЭТА КАМЕРА ВЕДАЕ МЯНЕ ДА АПОШНЯЙ КЛЕТКІ.

АКРАМЯ АДНОЙ.



